АДДЗЕЛ ПАДПІСКІ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ
БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА
# НА 1931 ГОД

на часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі

# „УЗВЫШША“

ВЫДАНЬНЕ БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА
ВЫХОДЗІЦЬ 12 КНІГ У ГОД

**„УЗВЫШША“**—друкуе мастацкія творы беларускіх і іншакраёвых пісьменьнікаў, шырока асьвятляе пытаньні поэзіі і наогул усіх галін мастацтва.

**„УЗВЫШША“**—жыва адклікаецца ў мастацкім слове на ўсе пытаньні палітычнага, літаратурнага і мастацкага жыцьця.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 1 год . . . . . . . . . . . 6 р. —
на 6 мес. . . . . . . . . . . . 3 р. 50 к.
на 3 мес. . . . . . . . . . . . 2 р. 30 к.

## АСОБНЫ НУМАР—80 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у аддзеле падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, ва ўсіх паштова-тэлеграфных канторах і крамамі спажывецкай коопэрацыі.

Ба 2080

12195

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

КРАСАВІК 1931

7

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59
Тэл. № 17—09.

БИБЛИОТЕКА ГОС. ИРКУТСКОГО УНИВЕРСИТЕТА

3959

Ба 2080

ЗЬМЕСТ:

Янка Ліманоўскі
МАЎКЛІВАЯ ВЫМОЎНАСЬЦЬ
апавяданьне

С. Рыгораўскі
БАЛЬШАВІЦКАЯ ВЯСНА
нарыс

Ц. Даўгапольскі
ПЕРАМЕРЗЛЫЯ ЯБЛЫКІ
апавяданьне

Юрка Бітус
ПРАГУЛЬШЧЫК
верш

ВЫКОНВАЕМ ЗАВЕТЫ ЛЕНІНА

СОНЕЧНЫ ПАХОД

Алёша
МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ
гумарэска

В. Таўлай
АПОШНЯЕ СЛОВА
верш

Ефім Садоўскі
ГУТАРКА З МАШЫНІСТАМ
нарыс

С. Грахоўскі
БАБРУЙСКІ КОМБІНАТ
нарыс

ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

Малюнкі ВАЛ. ВОЛКАВА
НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ



Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна

# Маўклівая вымоўнасьць



**Апавяданьне Я. ЛІМАНОУСКАГА**

**Малюнкі ЗАБОРАВА**

АПОШНІЯ сонечныя праменьні зазьзялі залацістым бляскам на вокнах старога, з аблезлай жоўтай фарбай, станцыйнага будынку, адпачылі на бялява-ружовых ускрайках хмарак і распырскаліся чырваньню далёка, далёка над лесам. Вячэрні змрок няпрыкметна павольна ахутвае станцыю. І мястэчка з прагнілымі, шызымі, драўлянымі стрэхамі, і нярухомыя колёны вагонау, і цёмна-зялёныя палосы сасьнякоў, што блізка абступілі станцыю з усіх бакоў. І рэчка,—якая выбягае з лесу, гульліва выгінаецца, падыходзіць насупроць станцыі блізенька да насыпу самое чыгункі і зноў задорна хаваецца ў лесе,—пацямнела. Маладыя сасьнякі на горцы закрылі бледную чырвань небасхілу і глянулі адбіткам у цемнаватую процьму рэчкі. Змрок гусьцеў. Расплываліся у нявыразнасьці, клаліся шэрай плямай будынкі, дрэвы і рэчы. Сьцішылася станцыя ў неакрэсьленым чаканьні, хаваючыся пад няўлоўнымі, як паветра, хвалямі цемры.

На крайнім пуці, тут-жа над рэчкай, выцягнуліся роўным шнуром таварныя вагоны. Са змрокам пачалася пасадка. Чырвонаармейцы расхутвалі абаранкі шынэляй, апраналі іх, складывалі ў вагоны свае клумкі і, чакаючы адпраўкі, з вінтоўкамі на рамень, праходжваліся каля вагонаў, сядалі купкамі на ўскрайку насыпу, пыхкалі цыгаркамі.

Камсамолец Сяцько сядзеў абапёршыся плячыма каля сасонкі на спадзе насыпу, глядзеў бязудзельна—ласкавымі вачыма на сталёва-бліскучую процьму рэчкі. Скруціў цыгарку, закурыў і ў лянівай павольнасьці абіваў прыкладам вінтоўкі пучкі травы на насыпі, засыпаючы іх шэрым, пухкім пяском. Пачуўся кароткі гудок, барджэй сьвіст паравоза. Сяцько, быццам на воклік, назірнуўся. Усе ўжо сядзяць у вагонах. Сяцько ня ўчуў каманды сядаць. Цягнік крануўся павольна, нібыта чакаючы пакуль Сяцько сядзе ў бліжэйшы вагон, папоўз чмыкаючы ў лясную прасеку.

У вагоне, куды сеў Сяцько, цеснавата. Відаць, пры пасадцы чырвонаармейцы ня трапілі ў свае вагоны. Сяцько спрабуе шукаць сваіх таварышоў: узводнага Зайцава, невялічкага крыжастага Падбярэзнага ды рухлівага жартаўніка Бардзілкі. Паштурхаўся ў вагоне, прыслухаўся да гоману. Ня чуваць іх. Здагадаўся, што сеў ня ў свой вагон, праціскаўся бліжэй да расчыненых дзьвярэй вагона. Стаяць прыкра, адчуваецца стомленасьць і ногі гатовы бязвольна сагнуцца. Мінулую ноч ня спаў. Чырвонаармейцы старающца ў цеснаце прыстасавацца і больш выгадна сесьці. Сядае і Сяцько.

Гутарка прыглушаным гоманам часам вылучаецца з вагоннага грукату. Праз расчыненыя дзьверы віднеецца бледная чырвань захаду. Часам яна больш ці менш засланяецца цёмнай заслонай лесу. Іншы раз задрыжаць на ёй пасмы тэлеграфных дротаў. Верхавінка лесу з вострымі, копкавымі тупымі і роўнымі абрысамі бяжыць перад дзьвярыма вагонаў, узьнімаецца, прысядае ніжэй, набягае хвалямі, жыве ў імклівым разьбегу. Ветру няма. Часам толькі падзьме ў вагон пахам маладой бярозкі. Майская ноч, шчодрая на весьняны пах зеляніны і роўную лагодную цемру, адгукаецца рэхам з-за лесу.

Сяцько схіляе голаву, радзей бяжыць узрок па бледнавячэрняй зары і чорнай сьцяне лесу. Пах зеляніны і нейкай вагоннае цьвілі асядаюць у адчуваньні, бы даўнія, забытыя ўспаміны. Заплюшчваюцца вочы, салодкая дрымота злагоджвае вагонныя штуршкі ды цеснату. Сяцько схіляецца, абапіраецца на бок свайго суседа, недалужна зьвешвае голаву, шукаючы апоры. Сяцьковы ногі нехта прыціснуў да болі. Нешта цьвёрдае ўпёрлася ў Сяцькоў бок. Сяцько спрабуе паварушыцца, заняць лепшае месца. Нельга ніяк вызваліцца ад прыкрай цеснаты, баляць ногі, баліць у баку, здранцьвела рука. А змора і сон разгарнулі заслону забыўнасьці, сьцішылі гамонку ды паклалі ў безладзьдзі на падлозе скручаныя постаці чырвонаармейцаў. А па-над імі схіліліся вінтоўкі, перапляліся штыкамі ў няправільныя краты. Сяцько прачынаецца ўсё больш рэдка, сон распасьцірае над ім свае крыльлі.

Прачнуўся Сяцько ад штурханіны і сумятні ў вагоне. Залязгалі штыкі, парваліся краты з вінтовак, трывожны гоман падняў чырвонаармейцаў з цьвёрдага ложка. Сяцько напаўсонны сеў, абапіраючыся на руку. Канчаткова абудзіў яго страшэнны, як здалося, выбух у вагоне. Гэта, праз неасьцярожнасьць, чырвонаармеец стрэліў з вінтоўкі. Цяпер ужо Сяцько выразна пачуў стрэлы. У цемры лесу замільгалі агенчыкі. Відаць, стралялі зблізку. Сяцько сьцяміў прычыну трывогі,—палякі абстрэльваюць цягнік. У вагоне сумяціца, спалох ад нечаканасьці зьліваюцца ў абурэньне. Цягнік усё-ткі ідзе наперад. З агульнай сумятні і гоману да Сяцько далятаюць словы:

— Да паноў вязе, Гаўрыла няшчасны.

— Няўжо на паравоз нікога не пасадзілі, павязе, сволач, да паноў.



..., Відаць, стралялі зблізку...

— Застрэліць гада

— Дастань яго.

— Пазаўчора з паравозам уцёк туды.

— Выскаквай, ды ня здавайся.

— Чаго выскаківай, загаду ня было.

— Дачакаешся загаду, у Пілсудзкага будзеш.

Цягнік пад абстрэлам,назьдзіва ўсім, шоў наперад. Часам па сьценцы вагона стрыкалі кулі. Відаць разрыўныя, не прабівалі. Ня было яшчэ раненых. Некалькі чалавек у сумятні павыскаквалі з вагонаў. З іншых вагонаў пачуліся стрэлы.

— Не страляць,—крыкнуў нехта ў вагоне, дзе ехаў Сяцько.

Цягнік сьцішыў ход. Быццам знарок, павольна цягнуўся пад абстрэлам. Стрэлы сьцішаліся ў адным месцы і пачыналіся ў новым. Відаць, у лесе было некалькі атрадаў.

Страляніна сьцішылася. Цягнік яшчэ пару хвілін ішоў наперад — спыніўся і таксама павольна, як і сюды, папхнуўся назад. І праз той-ж час, быццам хто вымярыў, пачалася страляніна ў лесе. У вагоне некаторыя пакаліся на падлогу, іншыя сядзелі. Без усялякай каманды пачалася страляніна з вагонаў. Сяцько ўбачыў, як па насыпу каля вагонаў прабеглі цёмныя постаці, спрабуючы сесьці ў вагон. Ці тыя, што раней выскачылі з вагонаў, ці з якой-небудзь заставы, што тут вартавала. Сяцько ня ведаў. Яшчэ пару чалавек мінулі вагон, кінуўшы слоўца аб дапамозе. Раненыя былі. „Ды хіба-ж ім і аставацца тут адзінотна ў цемры, у лесе, блізка ад ворага“— працяла Сяцько крыўднай трывогай. І пальцы сьціскалі вінтоўку нібы-та была небясьпека згубіць яе.

Цягнік шоў павольна, чалавек уздагон можа здужацца з ім, здавалася, што і страляніна ў лесе перастала быць грознай небясьпекай. а нагадвае трэск сякераў пры пасечцы дзялянкі.

Да Сяцькіна вагону, нібы з-пад калёс, вынырнула чалавечая постаць, учапілася рукамі за жалезны паддзьвернік і спрабуе не адставаць ад вагону, ня маючы, відаць, сілы ўзьлезьці ў вагон.

— Таварышы, вазьміце... ранены... не пакідайце... прападаць тут...—пачуў Сяцько голас, у якім роспач, жальба і просьба перамяшаліся ў адно нешта балючае, нявымоўнае.



..Сяцько схапіў у абдымку раненага...

Сяцько працiснуўся да дзьвярэй і разам з бліжэйшым таварышом, што стаяў тут, спрабаваў учапіцца за раненага, каб уцягнуць у вагон. Аднак, той відаць, ад нядужасьці, ці можа—спатыкнуўся ў цемры, на няроўнасьці—пахіснуўся і паваліўся. Толькі рукі моцна прыліпл1 да жалезнага паддзьверніка і ранены пацягнуўся павіснуты на руках. Што хвіліну ён можа папасьці пад колы вагонаў.

Сяцько без развагі скочыў з вагону, памкнуўся наперад, стаў рачком, утрымаўся. Падбег да вагону, схапіў у абдымкі раненага каля пояса і, натужыўшы сілы, бег з цяжкай паклажай, каб не астацца ад вагонаў. Выбраў зручны момант, як мага бліжэй падбег да дзьвярэй. і, наколькі мог, падняў перад сабой раненага. З вагонаў учапілася за каўнер раненага пара рук. Сяцько, зьмяніўшы рукі, стараўся падштурхаваць яго ўгару. Страляніна з лесу пасыпалася часьцей. Цягнік паскараў ход. І калі Сяцько падсаджваў раненага, абхапіўшы яго за ногі, а таварышы з вагону ўжо моцна ўчапіліся і пацягнулі раненага ў вагон, Сяцько адчуў, як у плячы правай рукі яго востра кальнула. Зьвіхнуў, ударыў? Рукі раптам аслаблі. выпусьціў раненага. Яго, аднак, пацягнулі ў вагон. Сяцько спрабуе сам ўскочыць ў вагон, схапіўся рукамі за вушак дзьвярэй. Спрабуе бегчы, каб не застацца ад вагону, а ногі ня слухаюць. Аслаблі рукі, адарваліся ад вушака. Сяцько хоча ўхапіцца яшчэ раз за другі вушак дзьвярэй. Штурханула вагонам, ногі зачапіліся за шпалу, паваліўся вобзем. Цяжка з натугай устаў на ногі. Спрабуе ісьці, ня можа. Боль праняла плечы, аглушыла неяк галаву. Не ўстаяў, пахіснуўся, паваліўся на ўскрайку чыгуначнага насыпу.

Лязгалі міма Сяцько адзін за другім вагоны. З шыпеньнем прагрымеў паравоз. Сьцішалася ў лесе страляніна. Сьцішаўся і гук ад цягніка, бег у далячынь, рассыпаўся, заміраў над дрымотнымі лясамі. Сяцько смутна зразумеў, што ён астаўся ад цягніка. Ляжаў так некалькі хвілін, працяты ўсё больш пякучым болем, блізкі да няпрытомнасьці.

З лесу пачуўся шолам. здалося ветрык узьняўся. Праз боль успомніў, што астаўся ў лесе, што была страляніна. Сьцяміў, што за шолам. Спрабуе падняцца, сеў толькі, але ізноў, нібы магнэсам, пацягнула да зямлі. Сяцько спрабуе павярнуцца на другі бок. можа лепш будзе ўстаць. Папаў на руб чыгуначнага насыпу і пакаціўся па ім. Бязвольна, сьцяўшы зубы ад болі, падаўся покату, пакуль ня спыніўся на роўным месцы. Падняў голаву, і вачыма, затканымі змрочнасьцю, азірнуўся. Убачыў на лузе, каля самога лесу цёмную купіну разложыстага куста. Робячы апошнія патугі, Сяцько спрабуе дакаціцца да куста. Зусім блізка шолам у лесе, чутна гамонка. Сяцько сьпяшаецца, і кожную сажань перамагчы больш марудна і цяжка. Папоўз у той бок, дзе галінкі зьвесіліся над самай зямлёй, падгарнуў іх галавой, шчыльней прытуліўся да куста, абгарнуўшы яго напаўкола.

Сяцько абдала водырам сьвежае травы, бярозкі і камваліі. Патрывожаная ціш ночы яшчэ шчыльней заліла сонны гушчар. Не варушацца галінкі, не шапацяць сьвежыя лісты. Толькі цемра вакол Сяцько згушчаецца. Толькі ў вушшу нейкае далёкае гудзеньне. І боль пякучая, але нявыразная, далёкая. На хвілінку Сяцько быццам ачуняў. Учуў, як стукаецца сэрца, учуў недалёка на чыгунцы людзкую гамонку.

І ўсе гэта заглохла, закрылася імглістасьцю, распарушылася, расьцяклося паміж дрэў і кустоў, зьмяшалася з цемрай. І зорка пакаціцлася залацістым шрамам ды спынілася над лесам, не адважылася патрывожыць цемравую гушчу, што паслала пасьцелью майская ноч дрымотнаму бору.



# БАЛЬШАВІЦКАЯ ВЯСНА

Нарыс
РЫГОРАЎСКАГА

СТАЯЛА восень. Шэрая імгла захінула шырокі прастор, равы, лес. На дварэ хлюпала рэдкая, цякучая гразь. Людзі пахаваліся па хатах. Хацелася захавацца куды-небудзь далей ад вільготных вокнаў, ад жаласьлівага стогну ветру. Марудна пасоўвалася вячэрняя імгла. Яшчэ больш халадала. Дождж ліў за шыю, дрыгота пранізала ўсё цела. У хаце-чытальні мігацеў агенчык. Шэрай плямай падала сьвятло праз акно на лужыну. У хаце было вільготна і золка. Паволі прыходзілі сяляне, зьбіраліся па кутках, гутарылі, гаварылі. І ціха было ў хаце, быццам аніводнае душы тут няма. Гутарылі аб нечым сур'ёзным, важным. І хоць кожны гаварыў, уголас выказваў свае думкі, але здавалася, што ніводзін з прысутных ня выказваў усё, што думае, не адкрывае ўсе свае карты.

— А калі...

— Ці лепей...

— А што будзе, калі...

І хоць усе гавораць, але кожны яшчэ думае сам па сабе. Махорачны дым ахутваў прысутных. Пачаўся сход. Спачатку слухалі даклад аб агульных задачах, чарговай вясьне. А потым, як скончыўся даклад, пацякла жвавая гутарка аб сваіх вясковых справах, аб хлебе, плугох, малатарні, кулакох, загатоўках збожжа, вывазцы лесу.

Успаміналі мінулую вясну, загатоўку збожжа.

Глухое змаганьне ішло па вёсках. Кулакі стараліся ўзяць сваё і імкнуліся пралезьці паўсюды, спрабавалі ўзяць назад пад свой уплыў беднякоў, батракоў. Рознымі мэтодамі дабіваліся яны гэтага. У вёсцы Ветрагоны беднякі батрачылі ўсё лета за тое, што зімой бралі ў кулака каня, каб прывезьці дроў, а ў вёсцы Хракі бедната адпрацоўвала ў кулака цэлае лета за хлеб, пазычаны ўвесну.

Разгарнуліся адкрытыя бai. Галоўнай прычынай зьявіўся хлеб. Ужо люты на дварэ, а загатоўкі яшчэ ня выкананы. Ходзяць кулакі з падкулачнікамі, пасьмейваюцца.

— Нам з хлебам сьпяшацца няма куды. Ляжыць, есьці ня просіць. Падатак? Заплочаны. Квіткі—вось яны. І самаабкладаньне заплацілі і аднаразовы культурны—таксама.

Вось тут партыйная ячэйка і паставіла пытаньне перад беднатой і сераднякамі:

Дапамагчы дзяржаве—сабраць хлеб! Даць хлеб рабочым, даць хлеб Чырвонай арміі.

Пачалі праводзіць сходы, пачалі работу ў групах бедняты, не адразу, але паднялася бедната на дапамогу дзяржаве. А калі пачалася барацьба за хлеб, болей выразна пачало выяўляцца, хто-ж дапаможнік савецкае ўлады, а хто вораг. Націснулі на кулацтва. А на націск кулацтва, як адзін, адказала:

— Няма хлеба.

Цэлая кулацкая забастоўка.

Вось тут яшчэ больш згуртавалася бедната вакол ячэйк комуністаў.

— Хлеб ёсьць. Схавалі, але ёсьць.

Глянулі ў пуні, а хлеб у кулакоў пад сенам ляжыць, у ямах закапаны. Па-баявому паднялася бедната. Актыўная работа, уцягненьне новых пластоў бедняты, актывістаў- сераднякоў узьняло жыцьцё кожнае вёскі. І на сходах узьнялася актыўнасьць. Раней, бывала, на сходы не зацягнеш, а зараз народ хваляй валіць. Збожжавыя загатоўкі былі праведзены па-рэвалюцыйнаму. Вось тут і выплыла пытаньне, што далей жыць так няможна.

З цёмнага кута падняўся худы стары з вялікай сівой барадой і са скаргай падышоў да стала.

— Зьнемагаешся, зьнемагаешся, а з лапцяў ніколі ня вылазіш. Горш нашага жыцьця няма нідзе. Коняй няма. Дроў няма. А ў горад ісьці, ды куды нам... Няпісьменныя.

Справа зацягнулася за поўнач. Па-ранейшаму на вуліцы плакаў дождж. Праз разьбітыя шыбы ўрываўся вецер, прымушаў людзей яшчэ больш сьціскацца, яшчэ больш чадзіць махорачным дымам.

Зноў з кута падняўся чалавек з пасівелымі валасамі, з пасівелай барадой. На ім вісеў гадамі паношаны сялянскі кажух. Маўкліва падышоў да стала. Пастаяў крыху, агледзеў аўдыторыю сваю, цяжка і важка кінуў асобныя словы:

— Правільна кажуць комуністы—колектыў трэба організаваць... Лепшае жыцьцё пойдзе.

Як вулей загудзеў сход.

— А ў суседзяў нашых нічога ня вышла!

— А там кулакі пастараліся.

— Праўда кажа—новае жыцьцё пойдзе!

— Баба ня хоча...

— Ты і дзеці хочаце, баба таксама захоча.

Відаць было, што доўгімі начамі кожны з прысутных дакладна абдумваў гэтую справу, што не адну ноч не давала яна ім спаць. Нарэшце колгас быў утвораны.

* * *

Калі быў выдрукаваны артыкул т. Сталіна, сяляне скардзіліся на брыдкія перагібы, дапушчаныя старшынёю сельсавету. Ён няправільна правёў абкладаньне. Абкладаў за тое, што пашыралі засевы. Няправільна раскулачаны былі некаторыя серадняцкія, а часам і бядняцкія гаспадаркі. Гэта ён, ходзячы па хатах, крычаў:

— Арыштую. У вастрозе згнаю, калі ў колгас ня пойдзеш!

Мелі рацыю мужыкі, правільна скардзіліся яны. Уважліва слухалі яны артыкул Сталіна. Чыталі, перачытвалі. Горача абгаварвалі.

— А ты нам, таварыш, яшчэ раз тое месца пачытай.

Зноў чыталі. Зноў гаварылі, спрачаліся.

— Хто адышоў ад нас, з колгасу выпісаўся?—пытаецца сакратар ячэйкі.—Той, хто пад нагамі блытаўся. Няхай ідуць. Бязумоўна, шкада, але што-ж зробіш? Затое засталіся самыя моцныя... Гляньце, хто застаўся. Хіба мы не пераможам? Яшчэ як, ого!

— А мы дапаможам,—крыкнуў жаночы голас з цемры.

Наступіла вясна. Пухкім зрабіўся сьнег на палёх. Псаваліся шляхі, бушавалі ў равох струмені вады па начох, набракаў сьнег і чарнеў, як чарнее нябожчык.

У кіраўніцтве колгасу наступілі самыя гарачыя дні. Памяшканьне колгасу — дом адабраны ў кулака—нагадваў сваім выглядам штаб вайсковай часьці 1920 году. Паўсюды было шмат народу, накурана, шумна. Тут абгаварваліся самыя пільныя, самыя важныя пытаньні.

— Як з насеньнем? Ці ўсё сабралі?

— Ці будзе формаліны, каб насеньне пратруціць?

— Калі прыедзе рабочая брыгада, каб дапамагчы рамантаваць сельскагаспадарчы інструмант?

— Ці будзе хоць адзін трактар у нас? А ў Койданаве цэлая машына-трактарная станцыя.

І колькі было гутарак вакол шчасьлівых койданаўцаў. Якая зайздрасьць!

Хіба пералічыш усе пытаньні, якія выплываюць тут у кожную гадзіну, у кожную хвіліну. Кожны ўвайшоўшы прыносіць цэлую жменю ўсплыўшых распарадкам новага жыцьця пытаньняў. І ўсе зьвярталіся сюды, каб тут атрымаць адказ, дапамогу.

У маленькім пакойчыку, абклееным масай плякатаў і абавязковай пастановай „курыць забараняецца—штраф адзін рубель", начаджана так, што дыхаць няма чым. Тут нешта накшталт габінэту старшыні і яго намесьніка. Першы—быўшы пастух, другі—рабочы-дваццаціпяцітысячнік. Яны ня ведаюць спакою. Удзень, уначы, заўсёды на рабоце.

Першай спробай для колгасу была веснавая сяўба. Да сяўбы кулакі і падкулачнікі вушы прагудзелі.

— Лёгка вам языком трапаць... Вось убачыце, каб ногі мае ўсохлі, што, як ворыва прыдзе, з поля ўцякуць.

Некаторыя адзінаасобнікі паддаквалі.

— Во колькі зямлі ўзялі. Убачым, колькі засеюць яны.

23 красавіка—дзень нараджэньня Леніна—вёска Ветрагоны бачыла нешта надзвычайнае, нікім нябачанае. На царкоўным пляцы выстраіліся плугі, бароны. Трыццаць два кані стаялі, гатовыя па камандзе рушыцца ў бойку.

Гэта быў першы пробны выезд, першая праверка гатоўнасьці да веснавой сяўбы.

Зьбіралася вёска. Глядзелі. Правяралі, ці добра адрамантавалі плугі заводзкія хлопцы, ці добра счэплены бароны. Адыходзілі, зноў падыходзілі, мацалі, правяралі.

— Так... Нічога. Добра.

Адна думка была ў кожнага колгасьніка:

— Сеяць-бы хутчэй. Сеяць... Араць трэба.

На сходах гаварылі:

— Кулакі, падкулачнікі і шаптуны думаюць усё, як-бы нам сарваць бальшавіцкую сяўбу. Таварышы колгасьнікі! Б'ем трывогу! Не дамо сарваць нашую вялікую справу. Організуем сяўбу, каб нанесьці руйнуючы ўдар усім малаверам, усім ворагам.

**Колгас застаўся жыць**

Ніколі зямля ня бачыла нічога падобнага. Працавалі колгасьнікі так, як ніколі не працавалі. Аралі коньмі. Трактараў ня было. Тэхнічная сіла—рукі. Працавалі і перамаглі.

— Засяваць толькі палі. Даць хлеб дзяржаве. Паказаць, што колгасьнікі працуюць лепш за аднаасобнікаў. Паказаць, што колгас ня тое, што аднаасобная гаспадарка.

І сеялі.

На многа былі перавыкананы пляны. Павялічылі плошчу сяўбы ў паўтара-два разы.

І гэта ўсё толькі сваімі сіламі, тымі самымі людзьмі, коньмі і машынамі, якія раней засявалі ў два разы менш. Вось калі ўбачылі сяляне вёскі Ветрагоны, што значыць працаваць у колектыве, супольнымі аб'яднанымі сіламі. Зразумелі яны, што новае жыцьцё расьце і мацнее ў баёх.

У самых колгасах ідзе яшчэ змаганьне з рэшткамі старога. Адразу людзей не пераробіш.

Старое лезе з розных шчылін.

Самы час работы, і раптам... сьвята якогасьці Міколы. Кліча звонам поп, і ёсьць такія, што гавораць:

— Ня будзем працаваць сёньня.

І ўсё-ж, ня гледзячы ні навошта, мацнеюць колгасы. Колектыўная праца, плянавасьць, правільнае выкарыстаньне сіл даюць куды больш прыбытку, колектыўная праца раз назаўсёды зьнішчае кулацтва як клясу і вызваляе сялян ад нявольніцкай працы на кулака.

Перамагае новае жыцьцё. У гэтай перамозе колгасьнікам дапамагаюць рабочыя гораду, даючы машыну, трактар, комбайн...

І будзе час—забудуць людзі пра касу, забудуць пра сярпы. Ім на зьмену ідуць машыны.

І ці не таму так шырока раскінуліся колгасныя палі, ці не таму цёплы вецер прабягае па высокай, густой ярыне, ці не таму колгасны ўраджай абяцае быць такі багаты,—што мільёны людзей, якія стагодзьдзямі гнулі сьпіну на пана, убачылі і ўступілі на ленінскі шлях, на шлях да новага сьветлага жыцьця?

І ці не таму разам з намі так радасна ўхмыляецца ў небе сонца, што і яно перайшло на новую службу—сьвяціць мільёнам вызваленых рабочых і сялян—гаспадарам новага жыцьця—будаўнікам бальшавіцкай вясны.



**Пасьля пробнага прабегу падрыхтаваны да бальшавіцкага наступу.**




**Апавяданьне Ц. ДОУГАПОЎСКАГА**

**Малюнкі ДАВІДОВІЧА**

...Я? Які ў часы царызму быў на тры гады сасланы ў Валагодзкую губэрню за ўдзел ў нелегальным сходзе. Я? Які маю трынаццацігадовы стаж савецкае работы? Які на ўсіх адкрытых сходах нашае партыйнае ячэйкі зьяўляюся самым актыўным удзельнікам у сэнсе аналізу дзяржаўных і партыйных пастаноў... Я наскрозь савецкі чалавек.

На дварэ лютавала завіруха. Час-ад-часу вагонным вэнтылятарам уцягвалася сюды сьвежае марознае паветра, і адзіночныя сьняжынкі, якія нядвухсэнсоўна напаміналі, што ў гэтую марозную ноч вы знаходзіцеся ў добра напаленым вагоне і ляжыце на чыстай пасьцелі, атрыманай ад праваднікa.

У жорсткім спальным вагоне было вольна і прасторна. У нашым купэ мы сядзелі толькі ўдвох—я і ля мяне другі пасажыр з паголенай галавой.

Чалавек, які ґаварыў, рыхтаваўся да ночы Ён пачаў распранацца, як у сябе дома, ён сам зноў паслаў пасьцель і, відаць, яму надзвычай спадабалася цёплая ў клетачках коўдра ангельскага сукна, з прыемнасьцю мацаў яе краі і сказаў:

— Вось, вось гэтая коўдра—мая старая знаёмая. Гэтую коўдру мы ў спадчыну атрымалі ад старой улады і цяпер яшчэ яна новая і моцная. Проста прыемна накрыцца ёю. Бярэце нашыя буфэты ў дваццаць чацьвертым годзе—мы-ж імі ганарыліся, замежныя турысты захапляліся імі. Дзе-ні-дзе ў нас зьяўляўся ўжо швэйцар ў бакенбардах, шыкарны гарнітур, адпаліраваная піяніна, ды з нашай савецкай эмблемай—серпам і молатам. Я быў надзвычай задаволены. Служачыя вагонаў, служачыя вакзалаў ня зьменьваліся штодзень, навучаліся распазнаваць частых пасажыраў, віталіся з вамі, а ў дарозе гэта вельмі прыемна... А цяпер, а цяпер... Што знайсьці можна ў нашых буфэтах і што знайсьці можна цяпер на станцыях. Мы, да рэчы, праяжджаем зараз станцыю Яблыка. Яшчэ два гады таму назад вы тут усяго маглі знайсьці. А галоўнае вы тут маглі знайсьці... А ну-ка,—націскае ён на свайго слухача,—чаму гэтая станцыя завецца Яблыка... Таму, што тут цэнтр зімняга яблыка, сапраўднага антона, гучнага і сакавітага і сьпелага, які аддае пахам сьвежае ванілі, як гэта ў апошнія часы любяць кваліфікаваць—сапраўднага экспортнага яблыка. Якраз у гэты час на гэтай станцыі можна было знайсьці мерзлае яблыка гэтага гатунку, што падобнага не знайсьці ва ўсім Саюзе. Гэта ня быў гнілы яблык, які ад марозу адразу бруіць пачынае і фактычна гніе, а мы завем мёрзлым... Божа барані. Пад ружовай скуркай яблычнага яблыка заўсёды пачыналася белая, сакавітая, салодкасьцю пранізаная мяккасьць. Тутэйшыя жыхары навучыліся рыхтаваць свае яблыкі на свой, уласны звычай... Я ніколі ня мінаў гэтай станцыі. Я нават меў сваю знаёмую гандлярку—маладую, крамяную дзяўчыну з добрым сэміцкім тварам і родзінкай на правай шчаце. Сярод усіх пасажыраў яна мяне заўсёды распазнавала. Яна, бывала, спыняла мяне і гаварыла: „Купіце зноў у мяне яблыкі, зноў купіце яблыкі ў мяне". Было так прыемна, так прыемна было. А цяпер—вы-ж бачыце, што цяпер—цяпер я павінен легчы спаць яшчэ раней Яблыка. Каб на станцыі Яблыка ня было яблык—далей ужо ісьці няма куды... А можа... не, я апрануся. Ня можа быць, каб у Яблыка, яблык ня было. За вакзалам мусіць стаяць яшчэ апошнія прадаўцы яблык. Магчыма, што яшчэ спаткаю тут маю знаёмую дзяўчыну з сэміцкім тварам і родзінкай на правай шчацэ...

Цягнік замарудзіў ход. Праз сьнегам засыпанае вакно паказваліся вагенчыкі. Мой сусед нанова адзеў штаны, камашы, паліто на сябе накінуў і пайшоў да выхаду.

Ніхто на станцыю ня вышаў. Лютаваў вецер. Сьнег яшчэ больш шалёна біў па завеяным акне. Наш пасажыр доўга марудзіў, відаць, усё шукаў ён за вакзалам гандляроў мерзлых яблыкаў, а тымчасам да нас у вагон на станцыі Яблыка зайшоў пасажыр у бразэнтавым паліто напаверх мяккай авечай шубы, страсянуў з сябе сьнег і мароз, агледзеўся і заняў адно з вольных месцаў у нашым купэ, распрануўся і радасна пачаў г ытаць цёплае паветра вагону.

— Цёпла ў вагоне,—сказаў ён, разьняўшы свой бразэнтавы мех. Пасажыр яшчэ быў даволі малады. Яго твар сьведчыў аб вясковым паходжаньні. Яго мова, акцэнт—што ён тутэйшы, з гэтых краёў. Яго багаж і адзеньне—што ён каморнік, або аграном, ці вэтэрынар, а мо' і проста вясковы грамадзкі дзеяч, але ва ўсякім выпадку, ён мае адносіны, блізкія адносіны да сельскай гаспадаркі.

Засапелы ўляцеў у вагон мой сусед, аматар мерзлых яблыкаў, ужо пасьля другога званка, калі цягнік цяжка рушыўся



**...Ён пазнаў знаёмую дзяўчыну...**

3 месца. Суседу майму нават і ня крыўдна было, што ён вярнуўся ў вагон з пустымі рукамі. Ну, так,—інакш і не магло быць. Ён нават і ня зьбіраўся тут яблыкі знайсьці. Ён, пераважна вышаў для таго, каб паглядзець старую добрую станцыю, месца калішняга сытнага буфэту, заўсёды сьветлага і смачнага буфэту, які яшчэ зусім нядаўна так добра працаваў.

— І думаць няма чаго,—дэкляраваў ён.—Вымерлі яблыкі, нібы памялом зьмяло.

— І вашую знаёмую сэмітку...

— Жартуеце? Кажуць, вам,—зьмялю... Ніводнае жывое істоты... А вы, таварыш, вы ня з Яблыка?—зьвярнуўся ён да новага пасажыра.

— З гэтае мясцовасьці,—адказаў вясковы чалавек.

— Вы, мусіць, дазволіце аб нечым вас спытаць.

— Спытайце.

— Куды падзеліся тутэйшыя яблыкі?

— Магу вам вельмі дакладна адказаць на гэтае запытаньне.

— Так, нават?

— Так, так.

— Дык куды-ж яны ўсё-ж падзеліся?

— Старыя сады?

— Старыя, старыя.

— Частка ліквідавана, а частка ёсьць.

— Ліквідавана? Чаму ліквідавана?

— Дрэва, думаеце вы, вечна жыве?

— Бязумоўна не... Выбачайце—глупства... Гэтыя яблыкі... Яблыкаўскія славутыя мерзлыя яблыкі... Куды яны падзеліся?

— Ёсьць яшчэ і мерзлыя яблыкі.

— Вы маеце пры сябе?

— Пры сябе ў торбе.

Ён усунуў руку ў бразэнтавы мех, выняў бляшаную консэрвную скрынку і падаў яе нашаму пасажыру. Мы ўсе агледзілі скрынку. На яе наклеена была этыкетка з надпісам:—„Мерзлыя яблыкі", і намалёваны ружовы яблык. Мастак, відаць, стараўся паказаць яблыка ў яго натуральным выглядзе, але яму гэта ня ўдалося.

— Значыць, консэрвы?

— Так, консэрвы.

— Значыцца, у такім разе, Яблыка таксама індустрыялізуецца?

— Вядома.

— І са ўсёй трас<атнёй у пяць год?

— У гэтую пяцігодку, абавязкова ў пяць год.

— З вызначанымі плянамі?

— Якія мы ажыцьцяўляем да тэрміну.

— Вы, што, аграном?

— Як бачыце.

— Цікава,—прагаварыў наш пасажыр, а Яблыкаўскі аграном тымчасам выняў з бразэнтавага меху мапу на цьвёрдай кардоннай падкладцы і шпарка разгарнуў яе. Мы ўсе азнаёміліся з садовым плянам Яблыкаўскага раёну. На мапе намалёваны былі як старыя, так і новыя сады, а таксама і тыя, якія сёлета маюць насадзіць. Пакуль кожная яблыня мае свой пункт, так што на мапе паказана ў шахматным парадку фактычная колькасьць яблыняў, ды ня толькі яблыняў, але ўсе фруктовыя дрэвы і нават ягадныя кусты, якія будуць яшчэ насаджаны.

— А што тут у вас у цэнтры намалявана?

— Гэта консэрвны завод, што працуе ўжо і які ў 1933 годзе будзе рэконструяваны. Не забывайцеся, што ў 1933 годзе мы будзем мець новых шэсьцьсот тысяч яблыняў зімовых гатункаў.

— А што адзначае той малюнак, што ля ракі?

— Мы будуем тут лесапілку... Яблыка сёлета патрабуе багата тары.—Ён назваў вялікую лічбу скрынак.

— А гэта?

— А гэта ў нас яшчэ пад знакам запытаньня. Наконт буракоў гутарка ідзе. Мы вядзем перамовы з Цукартрэстам дазволіць нам мець свае ўласныя буракі, а таксама сваю невялікую цукроўню, гэта нам танна каштаваць будзе.

...На маце былі намалёваны як старыя, так і новыя сады...

Паголены пасажыр матаў галавою і раптам выстрэльнуў:

— Рэ-кон-струк-цыя.

Апошні гук наш савецкі чалавек адлучыў ад усяго слова так, што атрымаўся нібы сэпаратар.

— Э!

А аграном, адчуўшы сябе пакрыўджаным, адкрыў бляшаную скрынку консэрваў і паказаў нам яе ўсім. „Мерзлыя яблыкі" выглядалі вельмі добра і відаць, былі вельмі смачныя.

— Вы можаце пакаштаваць, таварыш, запрапанаваў аграном.

Хутка заснула ўсё купэ. Разбудзіла нас раніцою прыбіральшчыца вагону. Яна зайшла да нас з мятлой і распачала работу. Мы ўсе яшчэ туліліся ў цёплых, ангельскага сукна коўдрах. Тут у вагоне ня было куды сьпяшацца, але раптам мой сусед закрычаў.

— Таварышка!

Прыбіральніца спыніла на хвіліну сваю работу і паказала свой твар.

— Ну, так, памяць не ашукала мяне, вы з Яблыка.

— А калі з Яблыка?

— Вы, здаецца... вы стаялі... вы калісь... вы зімою... Пытаюся... Вось, пра гэтыя мерзлыя яблыкі...

— Гаварэце выразна.

— Вы прадавалі ў Яблыка мерзлыя яблыкі?

— Калісь.

— Яшчэ зусім нядаўна... летась.

— Я ўжо маю двухгадовы працоўны стаж—ня летась.

— Але вы тая самая?

Яўрэйская дзяўчына з родзінкай на правай шчацэ не адказала, пачырванела і засьмяялася.

Яна прыбрала нашае купэ і выходзячы заўважыла майму суседу:

— Цюфяк, у вас цюфяк падае, прыбярэце свой цюфяк,—і зачыніла дзьверцы нашага купэ.

Сакавік 1931.

Пераклад з орыгіналу
**Б. Клінчука.**

# ПРАГУЛЬШЧЫК

Ах, сябра мой!
Ты зноўку п'яны
Ізноў па блытаных шляхох
Пашоў шукаць
Далёкіх пляпаў,
Далёкіх нам
Таварышоў.

Ты з вёскі сам
А стаў рабочым,
Мы рады гэтаму былі...
Зьвяло віно...
Ты сёньня прочыш
І сам няведаеш
Куды.

Другія ўдарнікамі сталі,
Аддалі сэрца барацьбе,
А ты згубіў
Закалку сталі
Стаў чалавекам для сябе.

Ну, што-ж, браток?
Завод ня грош.
Завод ня цацка для забавы,
Тваіх прагулаў
Ржавы нож
Ня зьнішчыць творчага запалу.

Мільёны, рушылі, пашлі
Ламаць граніт
Старой стыхіі—
Іх не параніць боль душы
І ветры дзікія ня схіляць.

**Юрка Бітус.**



**Мы павінны рухацца ўперад так,
каб рабочая кляса ўсяго сьвету,
гледзячы на нас, магла сказаць:
„Вось мой перадавы атрад,
вось мая ўдарная брыгада,
вось мая рабочая ўлада".**

Сталін.

**Ажыцьцяўляем заветы Леніна.
Праз электрыфікацыю да комунізму.**

На здымку: работы на гідро-электра-станцыі каля Кутаісу (Рыёнгэс), Грузія. Тут пададзены момант мэхан-ізаванай падачы ваганетак для земляной выемкі на Сагорыйскім плято.







КАДРЫ З ФІЛЬМУ

## Сонечны паход

Сцэнарыст АН. ВОЛЬНЫ
Рэжысэр КОРШ

**Фільм „Сонечны паход" адбівае процэс колектывізацыі сельскае гаспадаркі.**



# МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

## ЛІТАРАТУРНЫ СІЛУЭТ

**Гумарэска**

ПЕРАД тым, як нарадзіць Міхася Лынькова, яго маці доўга меркавала аб будучай долі свайго сына.

— У літаратуру пойдзе,—меркавала яна,—туды, дзе пяцідзесяцігадовы сіротка Байкоў крытыкай займаецца. дзе дзядзенька Грамыка вершыкі піша, а маэстра Цьвікевіч іх выдае,—і ад адных толькі гэтых думак Міхась Лынькоў ледзь ня стаў чалавекам, які не радзіўся.

Але, з другога боку, меркавала маці, будучы Чарот,—ужо тры гады, як у ночвах гушкаецца, будучы Платон Галавач з будучым Мурашкай у конікі гуляюць, праз гадоў пятнаццаць Андрэй Александровіч народзіцца,—разам мо' працаваць будуць... рашыла маці і нарадзіла Міхася Лынькова.

Бацька Міхася Лынькова чыгуначны рамонтны рабочы паглядзеў на твар сына, які нарадзіўся, і заўважыўшы нейкую сталасьць і сур'ёзнасьць (якая ня гледзячы на годы засталася на твары Міхася і да гэтага часу) памылкова сказаў:

— Качагарам будзе... а то і на памоцніка машыніста выб'ецца...

...Як чытач ведае якраз ня тое і ня другое з Міхася Лынькова ня выйшла...

Пасьля гэтага кароценькага ўступу я пераходжу непасрэдна да біографіі Міхася Лынькова.

Першыя весткі аб Міхасі Лынькову мы знаходзім у мінулым стагодзьдзі.

У 1899 годзе адзін з „бацюшак" Віцебскай епархіі ў сваіх мэтрычных запісах запісаў:

... У гэтым годзе нарадзіўся Міхась Лынькоў—будучы беларускі пролетарскі пісьменьнік і непахісны член Дома Пісьменьніка... Няхай жыве!

Як сьцьвярджаюць сьведкі, будучы Міхась Лынькоў скоса падзівіўся на бацюшкаў запіс і, прыжмурыўшыся, сказаў:

— Рэлігія—опіум для народу.

Яшчэ ў той час гэтыя словы надзвычайна ўразумілі „бацюшку", і роўна праз трыццаць год (на адзінаццатым гаду Кастрычніцкай рэволюцыі), калі сяляне канчаткова кінулі хадзіць у царкву,—адышоў і ад рэлігіі і сам „бацюшка", прыслаўшы ў рэдакцыю мясцовай газэты ліст іменна ў тым сэнсе, што рэлігія гэта опіум для народу.

... Біографію Міхася Лынькова я буду разглядаць выключна навукова, да чаго і пераходжу.

Міхась Лынькоў нарадзіўся ад таты і мамы.

Сягоднешняму трыццацігадоваму Міхасю Лынькову дваццаць дзевяць год таму назад быў роўна адзін год.

Можа чытач пачынае сумнявацца ў навуковасьці маёй працы?...

І зусім дарэмна...

Я не прэтэндую на годнасьць акадэміка, але вось ведаю і такія навуковыя працы, як „Беларускія коржыкі пад ікру і сьмятану", або, „Чаму сьпяваюць пеўні" і аўтараў гэтых прац залічылі ў навуковыя працаўнікі і нават годнасьць профэсараў давалі...

... Але абыйдзем гэта...

Дзіцячыя гады Міхася Лынькова праходзілі так:

Білі будучага пісьменьніка браты...

Сёстры білі...

Бацькі білі.

Ды ці мала хто за царом пісьменьніка біў...

Але і сам будучы пісьменьнік ці мала адбіваўся...

Біў братоў, вучняў, шыбы...

Вось так пакрысе і выбіўся ў пісьменьнікі.

Але для таго, каб не замарыць чытача доўгімі і няцікавымі біографічнымі разважаньнямі (якія чытач у дастатковай колькасьці знойдзе ў адмысловых па гэтаму пытаньню працах нашых крытыкаў), я абмяжуюся заўвагай аб тым, што дзіцячыя гады Міхася са шчасьцем з-за паркалёвай сарочкі, або з-за бацькавай хлыбісьніцы, якая шчасьліва абмінула будучага пісьменьніка,—што ўсе гэтыя радасьці не зьяўляліся неадменнай прывілегіяй Міхася Лынькова,—так жылі ў тыя часы і Чарот, і Галавач, і Мурашка, і нават Бэндэ.

Рос Міхась Лынькоў ад бацькавай палучкі да бацькавай палучкі, бо ў дзень палучкі маці з раніцы пачынала сварку, а бацька, згодна гадамі выпрацаванаму ўмоўнаму рэфлексу, сыстэматычна ў гэты дзень запіваў, а Міхась забіваўся ў падпечак, што, зразумела, ня спрыяла шпаркаму росту будучага пролетарскага пісьменьніка.

Тым ня менш умовы для творчай працы Міхася Лынькова былі самыя спрыяючыя:

Кніжок для чытаньня ня было...

Ежы, апрача бульбы, аніякай...

Працы нідзе не пашукаеш...

Пішы сабе ды пасьвіствай...

Праўда, часамі, бацькі гналі з-за стала будучага пісьменьніка.

Тады, будучы пісьменьнік, залазіў у вышэйадзначаны падпечак.

Залезе ў вышэйадзначаны падпечак і піша сабе ды пасьвіствае.

Дужа падпечак у старыя часы спрыяў творчай працы будучых пролетарскіх пісьменьнікаў.

Праўда, Менскі Камгас і да гэтага часу не пазбавіўся пэўнай ідэалізацыі падпечка, як найлепшага месца для творчай працы пролетарскага пісьменьніка.

Каб ня быць галаслоўным, скажам, што Лынькову Менскі Камгас і да гэтага часу адмаўляе ў пакоі.

— Няхай, маўляў, ізноў у падпечку папіша...

— Жадаем, маўляў, далейшага творчага росквіту...

Але я ўхіліўся ў бок ад непасрэднай біографіі Міхася Лынькова, да якой і пераходжу зноў з навуковым аналізам.

Праз кожны год Міхась Лынькоў вырастаў роўна на адзін год.

Калі адзін год канчаўся, наступаў другі год.

Высакосны год меў трыста шэсьцьдзесят шэсьць дзён, невысакосны трыста шэсьцьдзесят пяць.

У адзін з трохсот шэсьцідзесяці пяці дзён невысакоснага году Міхась Лынькоў скончыў Рагачэўскую настаўніцкую сэмінарыю.

На гэтым і скончыліся унівэрсытэты Міхася Лынькова, бо гэта было ў тыя часы, калі нават для самых перадавых настаўнікаў комплексны мэтод уяўляўся як сынтэз лінейкі з падзатыльнікам, а нашыя студэнты з рабочых і сялян яшчэ чакалі на Кастрычніцкую рэволюцыю, якая адчыніць для іх вышэйшыя навучальныя ўстановы, інстытуты ды акадэміі.

1917 г. застаў Міхася Лынькова вясковым настаўнікам.
З кастрычніка 1917 г. Міхась Лынькоў займаўся рэволюцыяй...
Партызанскія атрады і франты Чырвонай арміі, а ў далейшым селькораўская і газэтная праца былі для Лынькова Брусаўск'м інстытутам, праз які ён вышаў у беларускую пролетарскую літаратуру.
Ня ўсе беларускія літаратары ішлі ў літаратуру гэткім шляхам.
Некаторыя. як скажам Грамыкі, Цьвікевічы, Байковы і г. д. увайшлі ў літаратуру з некаторымі адхіленьнямі,—уцякаючы то ад партызанскіх атрадаў, то ад Чырвонай арміі...
... І раптам Грамыка ўжо вялікі поэта...
Байкоў яму ўжо „нех бэндзе пахвалёны" піша.
Цьвікевіч яго ўжо асобнымі выданьнямі друкуе...
Паглядзіш, было, на ўсё гэта, дый так:
— Эх, сволачы.
Падумаеш ды зм ўчыш..
Ні адзін актор БДТ такога лаяльнага савецкага спэца на сцэне ня згуляе, як гэтая група...
Падумаеш ды зноў змоўчыш.

Але з гэтай „разнавіднасьцю" беларускай літаратуры комуніст-пісьменьнік Міхась Лынькоў ніколі нічога супольнага ня меў.
На гэтым-бы я і скончыў літаратурны сілуэт Міхася Лынькова, але, мяркуючы, што ў чытача могуць паўстаць яшчэ дзе якія пытаньні ў сувязі з гэтым сілуэтам, я сьпяшаюся на іх адказаць.
Першае—у якім годзе Міхась Лынькоў пачаў пісаць і якія яго першыя творы?
Адказваю: Міхась Лынькоў пачаў пісаць з 1926 г. Першы яго твор быў надрукаваны пад назваю „З пражытых гадоў", другі „Гой".
Другое пытаньне. Ці жанаты Міхась Лынькоў?
Адказваю: жанаты, але гэта справа пэрсональная, інтымная і да літаратурнага сілуэту непасрэдных адносін ня мае.
Трэцяе пытаньне. Ці дасьць, нарэшце, Менскі Камгас пакой Лынькову? Адказваю: зьвярнецеся па адрасу — Менск, Пляц Волі, Менгоркамгас.

**Алёша.**

**В. Таўлай *)**

# АПОШНЯЕ СЛОВА

„Высокі Суд!" Увасабленьне ката!
Пачуй! Хачу сказаць табе я пару слоў!
За гэта, зразумела, мне заплаты
Не пашкадуеш! Хай! Хоць сто гадоў!

Я—камунар! Нязломны і бунтарны
За шчасьце ўсіх народаў барацьбіт.
Імкнуўся ўсёй душой да праўды сьвєтазарнай!
І гэтага імкненьня нікому не разьбіць!

„Высокі Суд!" Залежны „незалежнік"!
Комэдыя ў двух актах! Бясстыдная гульня!
Паглянь! Перад табой стаіць бунтар-мяцежнік
З вачыма гордымі і поўнымі агня!

Я—камунар! Ваш вораг, супастаты,
І не пакору вам, а вызаў прынашу!
Ў грудзёх маіх кіпіць к вам гнеў агнём крылатым.
Прэч рукі брудныя! Я ласкі не прашу!

„Высокі Суд!" Капіталіст! Абшарнік!
Над шыяй над маёй Дамокляў меч павіс!
Ды знай,—не задражы! Пагрозы ўсе—намарна!
Я не згаджусь пайсьці на подлы кампраміс!

Ну, што-ж? Вынось прысуд! Я—толькі усьміхнуся.
Дык хай завыюць кулі, забразгаюць мячы!
Я—камунар! Нічога не баюся!
Канец камэдыі рабеце, палачы!

Заходняя Беларусь
Горадня—Вастрог
25-XI—1929 г.

*) В. Таўлай малады паэт Зах. Беларусі, які нядаўна ўцёк ад белага тэрору ў Польшчы. Палітзьняволены. Прасядзеў 1 год у вастрозе ў Гародні. За ўдзел у антыфашысцкай дэмонстрацыі ў Віл. бел. гімназіі дырэктарам Астроўскім быў выключаны з гімназіі і перададзены ў рукі паліцыі.







# ГУТАРКА З МАШЫНІСТАМ

Нарыс Е. САДОЎСКАГА

ПАРАВОЗ, на якім мы ехалі, пабудавалі 25 год таму назад на Неўскім заводзе. 25 гадоў бесьперапыннага бега адбіліся на старым... Скура яго была цёмна-бурага колеру.

Труба — самая прыгожая частка машыны... На кур'ерскіх паравозах яна нібы люстэрка. На гэтым-жа паравозе труба была нейкага дзіўнага шэрага колеру, паліняўшая.

Наогул стары моцна патрапаўся... І усё-ж гэта быў добры паравоз, які мог рабіць прабег ад Менску да вялікіх вузлавых станцый лёгка, без усялякіх цяжкасьцяй... Не дарэмна машыніст Глянцаў гэтак любіў сваю машыну.

Глянцаў ведаў усё нутро паравозу. Усе раны, хворыя месцы, і гэта дазваляла яму уберагчы паравоз ад усялякіх здарэньняў.

Ці любіў Глянцаў каго-небудзь больш, чым гэтую машыну? Так любіў ячэйку, членам якой ён быў, дачку, якая толькі-што пайшла ў школу.

Але не, ня больш, гэта была роўная любоў.

Стары любіў старога. Глянцаў стары. Я стаю каля яго, бок а бок, угледжваюся як ён сьмела вядзе паравоз.

Глянцаў гутарыць са мной і ўсё-ж рука на рычагох. Годы навучылі яго вясьці паравоз бяз страху і ён зараз—можа рабіць гэта нават з зачыненымі вачыма правільна.

Я ўглядаюся ў машыніста і чамусьці знаходжу шмат аднолькавых рысаў паміж ім і яго любімай машынай.

І Глянцаў старэнькі... І ў яго ад дыму скура цёмна-бурага колеру.

25 год бегу. Не, у Глянцава большы стаж. Ён расказвае аб сабе:

— 40 год, брацішка, 40 год па гэтых шляхох імчуся. Састарыўся на іх, але пакінуць іх яшчэ ня зьбіраюся. Я, як машына. Год бяжыць, а потым у дэпо на рамонт. Улетку і я рэмантуюся.

Міналі кілёмэтры, імчаўся паравоз.

Памоцнік Глянцава глядзеў за топкай... Ён сачыў за стрэлкай маномэтру, мяшаў лапатай вугаль і час-ад-часу закідваў лапату ў круглую глотку топкі.

Паравоз ішоў з хуткасьцю 80 кілёмэтраў у гадзіну, прапускаючы лясы, палі, вёскі, станцыі.

Глянцаў вёў састаў да вузлавой станцыі, а там зьмена.

Былі сур'ёзныя перагоны, на іх стары змаўкаў, глядзеў у вузкае ваконца, прабітае наперадзе паравоза, і пільна сачыў за рэйкамі.

„Старыя" везьлі 10 вагонаў, якія былі перапоўнены пасажырамі. Гэта на іх плячох ляжала адказнасьць за жыцьцё дзесяткаў людзей.

На вузлавой станцыі—сцэпшчыкі адцапілі паравоз, і Глянцаў выбраўся на вольны шлях.

Ці разсказываць аб гісторыі гэтай паездкі. Не, навошта.

Народны камісар шляхоў зносін СССР т. Рухімовіч даў загад, па якому 8 дарог, у тым ліку і дзьве у БССР, Заходняя і Маскоўская, павінны былі да 5 сакавіка перайсьці на спараную язду.

Ці знаёмы ўжо чытач з гэтым тэрмінам? Апошнія гады на нашых дарогах у паравоза ня было сталай абслугоўваючай брыгады. Да вызначанай станцыі—абслугоўвала адна група, потым яна зьмянялася другой брыгадай.

Гэта зьмена брыгад, зразумела, адбівалася на самім паравозе. Ня было аднаго гаспадара. Кожныя 5—6 гадзін прыходзілі новыя людзі, і паравоз ад гэтага цяжка хварэў.

У адозьве ЦК УсеКП(б) і СНК СССР знойдзен правільны ключ да аздараўленьня транспарту—спараная язда.

Дзьве ці тры брыгады прымацоўваюцца да паравозу, і гэта ўжо яны цалкам адказваюць за яго.

Першы месяц дарога перайшла на гэты мэтад, а ён ужо апраўдвае сябе.

Стары Глянцаў па дароге ў дэпо разсказвае карысьць новай сыстэмы.

— Бачыў, як у дэпо машыністы навокал сваіх паравозаў клапоцяцца—гэтак і павінна быць.

Брыгады сачаць за рамонтам, самі дапамагаюць рамантаваць паравоз. І вось бачыш—адзін рамонт, другі і паравоз робіцца здаровым.

Са многімі машыністамі Глянцаў вітаецца і ўдагонку кідае жарты:

— Цягнешся, старына.

Ад спаранай язды шмат карысьці... Па Аршанскім вузлу прабег паравозаў узрос да 263 кілёмэтраў у суткі. Вышэй нормы!

Брыгады ў спаборніцтве. Штурмуюць недахопы.

У Менску завод „Полымя Рэвалюцыі" даў вышэй пляну 10 вагонаў і адзін паравоз. Пралетарыі Менску, БССР і ўсяго Савецкага Саюзу ідуць на дапамогу транспарту і арганізуюць суботнік.

Мы спыніліся. Перад намі праходзіў доўгі састаў таварнага поезда, і трэба было перачакаць яго.

— Але ты ня думай,—гаварыў Глянцаў,—што ўжо ўсё. Перайшлі на спараную язду і можна супакоіцца.

Цягнік прайшоў, мы перайшлі чыгунку і выйшлі на плятформу станцыі.

— Ты схадзі на станцыю і паглядзі расклад, а потым правер. Пабачыш, што па раскладу ходзіць толькі 70—80 процантаў паяздоў... А гэта вялікае зло.

Шуміць вялікі вузлавы вучастак. Прабягаюць цягнікі.

Ключ да аздараўленьня сталёвых рэек знойдзен. Спараная брыгада аздаровіць транспарт.



З вузкага месца транспарт павінен абараціцца ў магутны рухавік соцыялістычнага будаўніцтва.



# БАБРУЙСКІ КОМБІНАТ

Нарыс
С. ГРАХОЎСКАГА

ГРУЗНАЕ цела аўтобуса робіць нязграбны паварот і моўкне матор.

Гадзіньнік на высокай чырвонай вежы паказвае палову восьмай. Чатыры чорных трубы выпускаюць сівы дым; на ім пераліваюцца праменьні толькі-што вынырнуўшага сонца.

... Гудок.

— Заклік да працы. Сьпяшаюся ў цэх: ён здалёку выглядае прыгорбленым, доўгім, доўгім, з шматлікімі выступамі, дзьвярыма, сутарэньнямі. Ён—беладрэўны цэх—адна неаддымная частка магутнага волату — Бабруйскага Дрэваапрацоўчага Комбінату.

Ён толькі вясною мінулага году першы раз уздыхнуў вэнтылятарамі, закруціліся вострыя пілы, запелі пасы.

У белых цагляных сьценах штормам забілася жыцьцё.

**Людзі і лічбы.**

Гомель,

Менск,

Мазыр,

далі людзей, далі рабочых беладрэўнаму цэху.

Тры профшколы выхавалі 300 чалавек, навучылі валодаць машынай, змагацца ўпарта за прамфінплян, за наша будаўніцтва. Яны маладыя бадзёрыя хлопцы, упартыя, адданыя справе. Іх зьвязалі гады вучобы, іх зьліла ў адно праца.

... У цэху безьліч варштатаў, усе яны разьмеркаваны у хронолёгічным парадку процэсу працы, адзін за адным у тры рады стаяць надзіва складаныя варштаты.

Уключылі рубільнік.

Хлынуў ток у тоўстыя артэрыі правадоў, з дзікім (на першы погляд) сьвістам закруціліся пілы, зараўлі нажы, уразаючыся ў белае цела сухіх сасновых дэталяў, яны бягуць па падачы, даганяюць адзін другога, плывуць ад варштату к варштату.

Роўныя белыя з выямкамі-дзіркамі плывуць ў канец цэху.

Пасьля іх гоняць у „зборачны цэх".

Тут працуе ў дзень 10 зборшчыкаў, каля кожнага вагонка рознага віду дэталяў, яны складаюцца, улазяць адна ў адну і атрымоўваюцца „разьбітыя" ўзьмеры.

Іх клеяць, прыціскаюць дэталь да дэталі і складаюцца груды на дзіва прыгожых экспортных дзьвярэй.

Яшчэ нядаўна два-тры месяцы Беладрэўны цэх клікамі „чарапахай"—ён выканаў толькі 22% свае праграмы, ён абвясьціў прарыў. Часта стаялі варштаты, а то і па тры гадзіны маўчаў увесь цэх. Рабочыя бегалі, хваляваліся, расло абурэньне.

— Няма току!!!

Зьвінеў тэлефон.

Электрастанцыя адказвала:

— Няма паліва!!!

— Няма трусы!!!

— Выключаем пару!!!

У сушыльных камэрах псаваліся сьвежыя дошкі, маўчалі каларыфэры.

Ня было матар'ялу.

Рабочыя крычалі, як галодны—хлеба, як паміраючы—вады.

— Току!!!

— Току!!!

Пасылаліся цэлыя брыгады на электрастанцыю, цягалі дровы, насілі апілкі, і зноў пачынаў цягнуцца чорны дым з чацьвертай трубы.

„Ток—ёсьць!!!

**Заклік беладрэўцаў**

На плоце каля ўваходу на двор комбінату вісеў вялізарны фанэрны ліст. Вялікія літары шротам білі ў сэрца кожнага рабочага, царапалі мазгі трывогай...

І лесцэх адказаў:

Даём!!!

Будзе!!!

Сказала электрастанцыя...

Уключылі рубільнік. Пабеглі роўныя сасновыя дэталі, закружыліся трансмісіі, зараўлі пілы.

Гладкія чыстыя, як шкло, дзьверы адвозяць электро-вагонэткі з-пад шліфавальнага варштату.

А пасьля іх імчаць цягнікі ў далёкі Балтыцкі порт—гэта наша залатая валюта, нашы дзьверы вытрымалі конкурэнцыю на міжнародным рынку, выцісьнуўшы дзьверы Швэцыі і Амэрыкі.

І асноўную частку дае іх Белцэх.

Мы выканалі сёньня 95,6%—гэта яшчэ мала, гэтага для нас не хапае.

„Дадзім 100!!!"

„Зьнішчым брак!!!"

— б'юць у вочы лёзунгі каляровасьцю фарб, цэх працуе, цэх на поўным ходзе.

А за цэхам ляжаць эшалёны з экспортнымі матар'яламі па-за межы Савецкага Саюзу.





## ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ.

Нядаўна на заводзе „Энэргія" адчынілася комсамольскае аддзяленьне ашчадкасы. Каса пачала вытвараць разьлікі ў рабочым цэху.

На здымку зьверху: выплата зарплаты ў адным з цэхаў заводу.

На здымку пасярэдзіне: група рабочых саўгасу „Вішнёўка" організавалася ва ўдарную брыгаду ў адказ на выступленьне меншавікоў-інтэрвэнтаў.

На здымку ўнізе зьлева: група трактарыстаў буйнейшага жывёлагадоўчага саўгасу БССР „Вішнёўка" адказала меншавікам-інтэрвэнтам уступленьнем у комуністычную партыю. Гэтая група абавязалася падняць звыш пляну 75 *га* зямлі, назваўшы яе „Наш адказ інтэрвэнтам".

На здымку ўнізе справа: рамонт трактарнай восі. Саўгас „Вішнёўка".





# З альбому ВАЛЕНЦІНА ВОЛКАВА.



ЗЬВЕРХУ: Малюнак Днепрастану. ЗЬНІЗУ: Лепшыя ўдарнікі Днепрастану.

# НА ХВАЛЯХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА СЬВЕТУ.

## Вызваленьне Валеніуса.




На здымку паказана, як даводзіцца перавозіць у Амэрыцы каштоўныя транспарты ў аўто, бо злачынцы карыстаюцца дапамогай афіцыйнай улады.

У ФАШЫЦКАЙ Фінляндыі арыштоўваюць усіх „левых" палітычных дзеячоў. Клясавы суд выносіць катаржныя прыгаворы рэволюцыйным рабочым. Фашыцкі друк і выдатныя палітычныя дзеячы фінскай контрвыведкі вядуць бессаромлівае цкаваньне СССР. Размовы аб „заваёве" Савецкай краіны, аб зьвяржэньні „маскоўскае ўлады", аб анэксіі Ленінграда і паўночных губэрняў СССР аж да Уралу зрабіліся моднымі на фашыцкіх мітынгах. Нахабныя провокацыі фінскіх фашыстаў не зьяўляюцца навіной. Не зьяўляецца навіной і тое, што гэтыя провокацыі зьяўляюцца складанай часткай падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць СССР.

На гэтым фоне вельмі характарна паведамленьне з Фінляндыі, што суд зьмяніў прысуд былому начальніку генэральнага штаба Валеніусу і „ўмоўна" вызваліў яго. Фашыст Валеніус вызначыўся ня толькі тым, што па яго загаду ландасцы (фашысты) прабавалі схапіць бышага прэзыдэнта Фінляндыі Стольбэрга і перакінуць яго ў СССР, але і тым, што ён падрыхтоўваў дзяржаўны пераварот з мэтаю безадкладнага абвяшчэньня вайны СССР. Вось за гэтую раду фашыцкі суд лічыць магчымым узнагародзіць Валеніуса ўмоўным вызваленьнем.

У дзень вызваленьня Валеніуса новы прэзыдэнт рэспублікі Сьвінхуву прызначыў за старшыню Савету абароны крывахцівага ката фінляндзкай рэволюцыі, забойцу дзесяткаў тысяч рабочых, добра вядомага сваёй лютай варожасьцю да СССР генэрала Манэргэйма.

Вызваленьне Валеніуса і прызначэньне Манэргэйма—досыць красамоўныя факты. Працоўныя СССР дадуць ім адпаведную ацэнку.

---

## Залпамі ліквідуюць беспрацоўе.



У Седлецах (Польшча) у канцы сакавіка мела месца надзвычай баявое выступленьне беспрацоўных з прычыны спыненьня выдачы ўрадавымі органамі дапамогі па беспрацоўі.

Каля 1.000 беспрацоўных, даведаўшыся аб гэтым, уварваліся ў магістрат і катэгорычна патрабавалі выдачы дапамогі. Зараз-жа была выклікана паліцыя, якая з пажарнай помпы пачала заліваць беспрацоўных вадой. Калі гэта не дапамагло, паліцэйскія далі некалькі залпаў са стрэльбаў. Беспрацоўныя адказалі градам каменьняў і атакавалі паліцыю крэсламі, палкамі. Барацьба цягнулася некалькі гадзін. Шмат паліцэйскіх было паранена. Памяшканьне магістрату разбурана ўшчэнт.

Гэтак па ўсёй Польшчы. Фашыцкі орган „Кур'ер Віленскі" за адзін толькі дзень прыводзіць шэсьць самагубстваў з-за галечы і адсутнасьці працы, якія мелі месца ў Вільні. Ясна, што такі шлях выбіраюць толькі слабыя; большасьць разам з усёй рабочай клясай вядзе бязьлітасную рэволюцыйную барацьбу супроць дыктатуры фашызму.

Выступленьні беспрацоўных набылі настолькі востры, пагражаючы фашызму характар, што міністэрства ўнутраных спраў выдала распараджэньне аб узбраеньні паліцыі танкамі, кулямётамі і газавымі бомбамі.



ФАШЫЗМ РЫХТУЕЦЦА ДА НОВАЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ УЗМАЦНІМ ПРОЛЕТАРСКУЮ ПІЛЬНАСЬЦЬ.

Мільёны сялянскага насельніцтва ва ўсім сьвеце, прыбітыя аграрным крызісам, выкінутыя на вуліцу з прададзеных з аукцыёну памяшканьняў, ідуць у гарады і павялічваюць армію беспрацоўнага пролетарыяту.

На здымку: Дэмонстранты перад хлебнай крамай патрабуюць хлеба.




Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

БИБЛИОТЕКА ... ОПЫТА

Цана 15 кап.

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

## ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна

БЕЛ 880

Цана 15 кап.



**АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ і ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ**

# ПАДПІШЫСЯ на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь“ будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыоду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

**Умовы падпіскі:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**Падпіска прымаецца:** Аддзелам падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79; усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Тэлефон бюро падпіскі 17-12

Друкарня імя Сталіна Зак. № 744—10.000 экз. Галоўлітбел № 1031

